


Цэнтр
пераходных
даследаванняў

BelarusDigest

# ЕГУ: АПТЫМІЗАЦЫЯ ЎЗДЗЕЯННЯ НА БЕЛАРУСЬ

**Яраслаў Крывой**
**Алістар Рабальяці**

Аналітычная папера 2 | 14 чэрвеня 2013

Мінск–Лондан
2013

# Змест

Рэзюмэ 5

Уводзіны 6

Місія ЕГУ 7

“Дададзеная вартасць” ЕГУ 8

Вымярэнне ўздзеяння 9

Навучальнае ўздзеянне 9

Даследчыцкае ўздзеянне 10

Палітычнае ўздзеянне 11

Уздзеянне на нацыянальную ідэнтычнасць 12

Уздзеянне на нарошчванне патэнцыялу 13

Рэкамендацыі 14

Вызначэнне прыярытэтных кірункаў дзейнасці ў галінах “дададзенай вартасці” 14

Празрыстыя і заснаваныя на заслугах працэдуры найму, арыентаваныя на беларускіх грамадзянаў 14

Адсочванне адпаведнага ўздзеяння 15

Да большай устойлівасці праз канцэнтрацыю на Беларусі 16

Пра аўтараў 17

Пра Цэнтр пераходных даследаванняў 18

# Рэзюмэ


- Гэтая папера разглядае ўздзеянне Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (ЕГУ), беларускага ўніверсітэта ў выгнанні, на навуковыя даследаванні, выкладанне і публічны дыскурс, звязаныя з Беларуссю.

- Знаходзячыся па-за межамі Беларусі і тамтэйшых абмежаванняў, універсітэт можа сканцэнтраваць сваю працу на галінах, у якіх ён мае магчымасці забяспечыць “дададзеную вартасць”, а менавіта паліталогіі, гісторыі Беларусі, правах чалавека, беларускай мове і літаратуры, а таксама журналістыцы.

- ЕГУ са сваёй новай канцэпцыяй інтэрнацыяналізацыі рызыкуе страціць сваё адрозненне ад іншых рэгіянальных прыватных універсітэтаў, што падымае пытанне аб тым, чаму ён далей мусіць мець права на падтрымку донараў.

- ЕГУ мае патэнцыял стаць асноўным навуковым цэнтрам для даследаванняў Беларусі. Такім чынам, ён будзе ідэальна падыходзіць для атрымання далейшага фінансавання (напрыклад, праз даследчыцкія праграмы ўніверсітэтаў ЕС) або донарскай падтрымкі (звязанай з дэмакратызацыяй Беларусі).

- ЕГУ можа працаваць на задавальненне патрэбы ў высакаякасных даследаваннях Беларусі, асабліва звязаных з развіццём канкрэтных планаў рэформаў у Беларусі. На дадзены момант няма арганізацый, якія маглі б выконваць гэтую ролю.

- Для павелічэння зацікаўленасці маладых беларусаў у такіх праграмах, як “Паліталогія”, “Гісторыя” або “Беларусістыка”, універсітэт павінен не толькі прапаноўваць стыпендыі, але і прыцягваць і ўтрымліваць навукоўцаў высокай кваліфікацыі, якія працуюць у гэтых галінах, і забяспечваць ім працоўныя гарантыі, як у іншых універсітэтах ЕС.

- У паперы прапануецца стварыць надзейны механізм вызначэння даследчыцкага, навучальнага і палітычнага ўздзеяння на аснове вымерных паказчыкаў. Гэты механізм можа прыняць форму пашырэння дзейных наглядных органаў для забеспячэння донарам, выканаўцам, беларускай грамадзянскай супольнасці, беларускай дыяспары і літоўскаму ўраду магчымасці праглядаць справаздачы і праводзіць кансультацыі па найбольш важных рашэннях.

- У той час як мэта ЕГУ змяншэння залежнасці ад донарскага фінансавання падтрымліваецца, у гэтым даследаванні сцвярджаецца, што донары павінны і надалей цвёрда падтрымліваць ЕГУ як каштоўную ўстанову, якая магла б адыграць унікальную ролю ў будучыні Беларусі.

- Знешняя падтрымка, аднак, павінна быць накіраваная на галіны “дададзенай вартасці”, у той час як іншыя праграмы ЕГУ павінны імкнуцца да ранейшага забеспячэння самафінансавання.

# Уводзіны

Згодна з патрабаваннямі літоўскага заканадаўства, цяперашні рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта павінен пакінуць сваю пасаду ў бліжэйшы час, адслужыўшы два тэрміны. Гэтая папера мае на мэце распачаць канструктыўнае грамадскае абмеркаванне кірункаў дзейнасці ўніверсітэта пад новым кіраўніцтвам, каб справіцца з выклікамі, якія стаяць перад ЕГУ і беларускім грамадствам.

Аўтары правялі інтэрв’ю па электроннай пошце і па тэлефоне з больш чым 20 асобамі, звязанымі з ЕГУ, у тым ліку ягонымі выпускнікамі, выкладчыкамі, донарамі, а таксама прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці, якія супрацоўнічалі з універсітэтам у мінулым. Многія пагадзіліся, што адкрытае абмеркаванне пойдзе на карысць універсітэту.

ЕГУ знаходзіцца на ростанях. Пры адсутнасці на даляглядзе зменаў у Беларусі, універсітэт мусіць падрыхтавацца да далейшага знаходжання ў выгнанні. Праз дзесяць гадоў пасля адкрыцця ЕГУ ў Вільні многія донары працягваюць аказваць падтрымку ЕГУ, выказваючы сімпатыю за ягоную барацьбу. Тым не менш яны аддаюць усё большую ўвагу эфектыўнасці фінансавання і падрабязна разглядаюць развіццё ўніверсітэта ў кірунку самафінансавання.

ЕГУ – важная і каштоўная ўстанова для будучыні Беларусі. Аднак публічная інфармацыя і дыскусіі пра кірунак развіцця ўніверсітэта абмежаваныя. Большасць СМІ засяроджваюцца на гісторыі выгнання ўніверсітэта, а не на ягонай эфектыўнасці. Гэтая папера мае запоўніць гэты прагал.

У 2014 годзе Цэнтр пераходных даследаванняў плануе падрыхтаваць працяг даследавання, каб адсачыць прагрэс універсітэта ў галінах, вызначаных ніжэй.

# Місія ЕГУ

Заснаваны ў 1992 годзе ў Мінску, ЕГУ быў вымушаны пакінуць краіну ў 2004 годзе, калі беларускія ўлады адклікалі ягоную ліцэнзію. Гэта было зроблена пасля адмовы ЕГУ змяніць кіраўніцтва ўніверсітэта пад ціскам з боку ўрада. Выгнаны ўніверсітэт знайшоў свой новы дом у Вільні, якая знаходзіцца ў менш чым трох гадзінах язды цягніком з Мінска.

Інаўгурацыя ЕГУ 9 чэрвеня 2004 года ў Вільні сталася ягоным паўторным адкрыццём як звычайнага ўніверсітэта, які з тых часоў працуе ў Літве для беларускіх студэнтаў[1]. На думку ЕГУ, ён з'яўляецца адзіным беларускім універсітэтам, якому "ўдалося пазбавіцца жорсткай рукі беларускай дзяржавы і яе ідэалагічнага кантролю над адукацыйнымі ўстановамі"[2].

Аднак, як гэтая папера паказвае ніжэй, універсітэт нядаўна зрушыў акцэнт са звязаных з Беларуссю курсаў, публікацый, супрацоўнікаў і беларускай мовы ў бок інстытуцыі, якая мае мэту задаволіць больш шырокаму колу студэнтаў з краінаў былога Савецкага Саюза. Беларускі кампанент быў больш прыкметны на працягу яго першых гадоў у выгнанні. Стратэгія ўніверсітэта згадвае Беларусь пераважна ў якасці крыніцы студэнтаў сярод іншых студэнтаў з рэгіёна, а не ў якасці асноўнай мэты сваёй дзейнасці[3].

> Стратэгія ўніверсітэта згадвае Беларусь пераважна ў якасці крыніцы студэнтаў сярод іншых студэнтаў з рэгіёна, а не ў якасці асноўнай мэты сваёй дзейнасці.

Інтэрнацыяналізацыя ўніверсітэта, якая займае заўважнае месца ў апісанні бачання ўніверсітэта на будучыню[4], хутчэй за ўсё прывядзе да зніжэння колькасці даследаванняў пра Беларусь, беларускіх супрацоўнікаў і студэнтаў. ЕГУ рызыкуе страціць сваё адрозненне ад іншых рэгіянальных прыватных універсітэтаў, што падымае пытанне пра тое, чаму ён павінен далей атрымліваць донарскую дапамогу.

Напрыклад, польскія ВНУ (асабліва прыватныя, як Універсітэт Лазарскага) не маюць ані канкрэтнай падтрымкі з боку донараў, ані асаблівага акцэнту на Беларусі. Аднак іх цэны даступныя і беларусы гатовыя плаціць за перавагі адукацыі ў Еўрапейскім Саюзе. Магчыма, па іроніі лёсу Ўніверсітэт Лазарскага арганізаваў серыю канферэнцый на тэму гістарычных і палітычных перспектываў Беларусі, якія, на думку назіральнікаў, павінны стаць пазнавальным брэндам ЕГУ.

Занепакоенасць выклікаюць таксама супольныя праграмы з іншымі ўніверсітэтамі, якія ў рэальнасці больш субсідуюць навучанне беларускіх студэнтаў у звычайных рэгіянальных універсітэтах, чым ствараюць асяроддзе, сканцэнтраванае на Беларусі.

---

1 Anatoli Mikhailov, A Future for Belarus's University in Exile, European Voice, 16 June 2006, <http://www.europeanvoice.com/article/imported/a-future-for-belarus-s-university-inexile/52579.aspx>, доступ: 13 чэрвеня 2013 г. У 2006 годзе літоўскія ўлады пацвердзілі, што дзейнасць ЕГУ адпавядае літоўскаму заканадаўству, і выдалі афіцыйную акрэдытацыю.

2 What Makes EHU Unique?, <http://www.ehu.lt/en/about/what-makes-ehu-unique>, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.

3 EHU Governing Board, "European Humanities Vision 2019, A Strategic Plan for Academic Years 2012–2019", 2011, с. 7, 15, 21.

4 *Ibid.*

Каб выканаць сваю ролю ўніверсітэта ў выгнанні і цэнтра акадэмічнага развіцця для новага пакалення беларусаў, універсітэт павінен захаваць свой беларускі характар і засяродзіць увагу на галінах "дададзенай вартасці" для Беларусі. Замест таго, каб стаць звычайным "інтэрнацыяналізаваным" універсітэтам, ЕГУ павінен браць прыклад з іншых паспяховых эміграцкіх універсітэтаў, у прыватнасці Ўкраінскага свабоднага ўніверсітэта ў Мюнхене, які даў адукацыю некальскім пакаленням украінцаў[5].

# "Дададзеная вартасць" ЕГУ

Наступныя галіны былі вызначаныя ў якасці галінаў, у якіх беларуская дзяржава аказвае на студэнтаў і навукоўцаў асаблівы ціск, калі яны вучацца ва ўніверсітэтах, якія знаходзяцца ў Беларусі. Такім чынам, ёсць выразная патрэба, каб яны сталі ключавымі галінамі "дададзенай вартасці" ЕГУ.

*Табліца 1. Галіны, у якіх ЕГУ можа стварыць "дададзеную вартасць"*

| Акадэмічныя галіны | Выклікі ў Беларусі |
|---|---|
| Паліталогія | Палітычна матываваныя выключэнні, адсутнасць у Беларусі платформаў для абмеркавання беларускай палітыкі. Цяжкасці з правядзеннем грамадскіх абмеркаванняў планаў эканамічных і палітычных рэформаў і немагчымасць напісання і абароны кандыдацкіх дысертацый, якія не адпавядаюць ідэалогіі рэжыму. |
| Беларуская гісторыя | Цяперашнія беларускія ўлады распаўсюджваюць сваё бачанне беларускай гісторыі, заснаванае на савецкай спадчыне, яе сувязі з Расіяй і партызанах савецкай эпохі. Гэта адбываецца насуперак розным дэмакратычным сілам, якія імкнуцца падкрэсліць еўрапейскія карані беларускай нацыі, звязаныя з Вялікім Княствам Літоўскім. |
| Палітычныя правы, сацыялагічныя даследаванні, дэмакратычная трансфармацыя | Беларусь з'яўляецца адным з найгоршых месцаў у рэгіёне, дзе чыняцца перашкоды тым, хто актыўна працуе ў гэтых галінах. |
| Беларуская мова і літаратура | Нягледзячы на тое, што беларуская ідэнтычнасць, мова і культурная спадчына з'яўляюцца асновай дэмакратычнага руху, у Беларусі адбываецца сталая дыскрымінацыя беларускамоўных асобаў. |
| Журналістыка | Беларускія незалежныя журналісты часта сутыкаюцца з пераследам з боку ўладаў і адсутнасцю магчымасці далейшага прафесійнага развіцця. |

[5] Украінскі свабодны ўніверсітэт быў прызнаным заходнееўрапейскім навуковым цэнтрам, які спецыялізуецца на вывучэнні Ўкраіны ў СССР і ўкраінскай дыяспары. Акцэнт быў зроблены на вывучэнні ўкраінскай гісторыі, літаратуры, культуры, права і палітыкі. Падрабязней на: <http://en.wikipedia.org/wiki/Ukrainian_Free_University>.

У гэтых галінах ЕГУ дакладна можа забяспечыць “дададзеную вартасць”. Вывучэнне і даследаванні ў гэтых галінах абмежаваныя ў Беларусі, часам адмыслова ўціскаюцца. Гэтыя “асноўныя” галіны павінны стаць у цэнтры донарскай падтрымкі, у той час як іншыя галіны дзейнасці ЕГУ павінны быць накіраваныя на забеспячэнне іх самафінансавання за кошт прыцягнення студэнтаў, якія аплочваюць сваё навучанне.

# Вымярэнне ўздзеяння

З увагі на незвычайнасць установы, якая мае місію працаваць на карысць Беларусі, але па зразумелых прычынах застаецца размешчанай за межамі роднай краіны, вымярэнне яе ўплыву патрабуе незвычайных падыходаў.

Гэтая папера канцэнтруецца на пяці канкрэтных галінах, звязаных з працай ЕГУ: навучальная, даследчыцкая, палітычная, нацыянальная ідэнтычнасць і нарошчванне патэнцыялу.

## Навучальнае ўздзеянне

Шэраг крокаў сведчаць, што ўніверсітэт адыходзіць ад сваёй канцэнтрацыі на Беларусі. Характэрна, што ў апошні час ЕГУ зачыніў або прыпыніў свае праграмы, сканцэнтраваныя на Беларусі і правах чалавека (“Паліталогія і еўрапейскія даследаванні”, “Дэмакратыя і грамадзянская супольнасць”, “Параўнальная гісторыя краін Паўночна-Ўсходняй Еўропы”) або панізіў іх да спецыялізацыі (напрыклад, “Беларусістыку”) у рамках больш буйных агульных праграмаў.

Акрамя таго, ЕГУ знаходзіцца ў працэсе зліцця сваёй унікальнай праграмы з іншымі заходнімі ўніверсітэтамі. Напрыклад, тое, што многія бачаць у якасці адной з ключавых праграмаў, – маецца на ўвазе паліталогія – плануецца перавесці на англійскую мову без утрымання асаблівага акцэнту на Беларусі і праводзіць супольна з літоўскім Універсітэтам Вітаўта Вялікага, які знаходзіцца ў Каўнасе.

Многія публічныя мерапрыемствы, арганізаваныя ў ЕГУ, не маюць прамога дачынення да Беларусі. Напрыклад, нядаўна рэкламаваная канферэнцыя “Ацэнка практычных ведаў у грамадскіх і гуманітарных навуках: даследчыя стратэгіі ў сучасным універсітэце” запланаваная на кастрычнік 2013 года і будзе праводзіцца выключна на англійскай мове[6]. Паколькі пераважная большасць беларускіх навукоўцаў не валодаюць у дастатковай ступені англійскай мовай, яны дакладна не з’яўляюцца галоўнай мэтавай аўдыторыяй. Больш за тое, ні прапанаваныя тэмы канферэнцыі, ні апісанне не згадваюць Беларусі.

[6] EHU Academic Conference “Evaluating Practical Knowledge in the Social Sciences and Humanities: Research Strategies in the Modern University”, <http://www.ehu.lt/en/publicevents/evaluating-practical-knowledge-in-the-social-sciences-and-humanities-research-strategies-in-the-modern-university>, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.

## Даследчыцкае ўздзеянне

Сучасныя акадэмічныя інстытуты ў першую чаргу ацэньваюць па якасці і колькасці ўласных даследаванняў. Аднак апошняя Гадавая справаздача па даследчай дзейнасці ЕГУ не дае дакладнага ўяўлення пра яго дасягненні ў гэтай галіне[7]. Замест гэтага, справаздача пераважна пералічвае мерапрыемствы, такія як семінары і канферэнцыі. У той час як большасць падзей, пералічаных у даследчыцкай дзейнасці, уяўляюцца актуальнымі для Беларусі, з 26 пералічаных падзей толькі тры маюць дачыненне да галінаў "дададзенай вартасці", вызначаных вышэй[8].

Цяжка ацаніць якасць публікацый штатных супрацоўнікаў ЕГУ, бо справаздача дае толькі агульную колькасць, якая таксама ўключае ў сябе навукоўцаў, якія праводзяць толькі невялікую частку свайго часу, выкладаючы ў ЕГУ.

У прыведзенай ніжэй табліцы параўноўваюцца згадкі пра Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт і Еўрапейскі ўніверсітэт у Санкт-Пецярбургу (прыватны расійскі ўніверсітэт, у якім выкладанне вядзецца, як і ў ЕГУ, пераважна на рускай мове)[9]. Табліца паказвае, што ЕГУ мае ў шэсць разоў менш згадак у базе дадзеных Google Scholar у параўнанні з яго калегамі з Санкт-Пецярбурга[10].

*Табліца 2. Даследчыцкія вынікі: колькасць згадак на scholar.google.com у 2012 годзе*[11]

| Даследчыцкая інстытуцыя | Сталы акадэмічны склад (прыблізна) | Па-англійску | Па-беларуску | Па-руску | Суадносіны згадкі / акадэмічны склад |
|---|---|---|---|---|---|
| Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт | 99[12] | 37 | 1 | 12 | 0,5 |
| Еўрапейскі ўніверсітэт у Санкт-Пецярбургу (Расія) | 50 | 90 | н/д | 62 | 3,0 |

Хоць універсітэт стварыў шэраг навукова-даследчых цэнтраў, іх вынікі, калі яны датычаць адчувальных галінаў, аказваюцца вельмі сціплымі. Напрыклад, Цэнтр канстытуцыяналізму і правоў чалавека быў створаны ў 2012 годзе, але ягоная

7 Annual Report on EHU Research Activities (October 2011 – September 2012), <http://www.ehu.lt/files/Annual%20EHU%20Report%20on%20Research%20Activities%202012.pdf>, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.

8 А менавіта семінары "Прафесійная журналістыка і правы чалавека", "Палітычная карупцыя як постсавецкі феномен у Літве, Латвіі і Беларусі" і выстава "Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка".

9 Чытай больш на: <http://en.wikipedia.org/wiki/European_University_at_Saint_Petersburg>, доступ: 10 чэрвеня 2013 г.

10 Глядзі Google Scholar <http://scholar.google.com>.

11 Лічбы адлюстроўваюць вынікі, калі назва ўстановы напісана на англійскай, рускай і беларускай мовах. Мэта гэтага параўнання – паставіць даследчыцкія вынікі і акадэмічную заўважнасць Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў кантэксце.

12 У 2012 годзе агульная колькасць персаналу ЕГУ ўключала 244 супрацоўнікаў, з якіх: 88 адміністратараў, 57 акадэмічных і даследчых супрацоўнікаў адміністрацыі і 99 штатных выкладчыкаў. Часовы выкладчыцкі склад не ўлічваўся. "Annual Report of the EHU 2011–2012", с. 57, http://www.ehu.lt/files/EHU_annual_report_2011-2012.pdf, доступ: 10 чэрвеня 2013 г.

апошняя пераліčаная публікацыя датавана 2011 годам (відавочная супярэчнасць сведчыць, што гэтая дзейнасць мела месца па-за цэнтрам)[13].

У рамках нядаўна створанага Часопіса канстытуцыяналізму і правоў чалавека толькі адзін артыкул быў напісаны беларускім аўтарам (хоць яго артыкул не датычыць Беларусі)[14]. Астатнія восем з дзевяці аўтараў – навукоўцы ці практыкі, якія працуюць у Расіі. На 70 старонках часопіса, які выдаецца на рускай мове, ніводнага разу не згадваецца слова “Беларусь”. Такі акцэнт часопіса расчароўвае, улічваючы, што ў Беларусі ёсць вельмі сур’ёзныя праблемы з правамі чалавека і канстытуцыяналізмам, а ЕГУ ідэальна падыходзіць для іх абмеркавання.

Падобным чынам у спісе ініцыятываў Інстытута гістарычных даследаванняў Беларусі толькі тры ініцыятывы датычаць Беларусі[15]. Больш за тое, адно з трох пералічаных мерапрыемстваў, паводле беларускай прэсы, было арганізаванае ў Беларусі іншымі арганізацыямі[16].

Такім чынам, важна не толькі стварэнне навукова-даследчых цэнтраў, але таксама забеспячэнне таго, што яны займаюцца правядзеннем і распаўсюдам якасных даследаванняў, якія маюць дачыненне да Беларусі. Публічна даступная інфармацыя дазваляе выказаць здагадку, што ЕГУ мае мала працоўных сувязяў з даследчыкамі з Беларусі, якія працуюць у аналітычных цэнтрах у галінах “дададзенай вартасці”. ЕГУ мог бы пачаць распрацоўку канцэпцыяў на перыяд эканамічных і палітычных пераменаў або “паўдэмакратычнай Беларусі”, а таксама ролі, якую ЕГУ можа выконваць у такіх умовах.

Неабходна выпрацаваць бачанне развіцця ЕГУ як асноўнага навуковага цэнтра для Беларусі, што спецыялізуецца на даследаваннях у тых кірунках, дзе існуюць абмежаванні ў Беларусі ў сувязі з палітычным становішчам, і таго, як падрыхтаваны ЕГУ да магчымых зменаў у Беларусі. ЕГУ таксама павінен наймаць людзей з пацверджанымі навуковымі дасягненнямі і здольнасцю атрымліваць фінансаванне ад Еўрапейскага Саюза і іншых буйных донараў на навукова-даследчыя праекты, звязаныя з галінамі “дададзенай вартасці”.

## Палітычнае ўздзеянне

Сайт ЕГУ ўтрымлівае мала інфармацыі пра круглыя сталы, дэбаты або аналітычныя нататкі, якія робяць уклад у дыскурс публічнай палітыкі ў Беларусі. На большасці мерапрыемстваў ЕГУ галоўную ролю адыгрываюць выбітныя замежныя госці. Варта адзначыць, што сярод выступоўцаў, запрошаных на Публічныя дыскусіі ЕГУ, няма ніводнага чалавека з Беларусі[17].

Цяжка дакладна ацаніць палітычнае ўздзеянне ўніверсітэта ў Беларусі, але паказчык цытаванняў у беларускіх СМІ дае пра гэта прыблізнае ўяўленне.

13 Дзейнасць Цэнтра канстытуцыяналізму і правоў чалавека, http://www.ehu.lt/en/research/research-centers/center-for-constitutionalism-and-human-rights/activities, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.
14 Часопіс канстытуцыяналізму і правоў чалавека, № 1 (2013), <http://www.chrcentre.org/sites/default/files/JournalNo1.pdf>, доступ: 10 чэрвеня 2013 г.
15 Дзейнасць Інстытута гістарычных даследаванняў Беларусі, <http://www.ehu.lt/en/research/research-centers/institute-for-historical-research-on-belarus/activities, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.
16 Міжнародная навуковая канферэнцыя “Гарадзенскі палімпсест – V: людзі даўняй Гародні” (Гродна, 3–4 лістапада 2012 г.), <http://tinyurl.com/pe232yh>, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.
17 Публічныя дыскусіі ЕГУ, <http://www.ehu.lt/en/public-events/ehu-public-conversations>, доступ: 3 чэрвеня 2013 г.

*Табліца 3. Бачнасць у Беларусі: паказчык цытаванняў на news.tut.by (найпапулярнейшы беларускі інтэрнэт-партал) у 2012 годзе*

| Установа | Сталы акадэмічны склад (прыблізна) | Колькасць цытаванняў | Суадносіны цытаванні/ акадэмічны склад | Кантэкст |
|---|---|---|---|---|
| Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт | 99 | 17 | 0,2 | Пераважна пра факт свайго існавання, фінансавыя цяжкасці, навучальныя праграмы |
| Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў[18] | 10 | 22 | 2,2 | Пераважна каментары пра апублікаваныя аналітычныя нататкі, круглыя сталы, інтэрв'ю з аналітыкамі |
| Дыскусійна-аналітычная супольнасць "Ліберальны клуб"[19] | 7 | 16 | 2,3 | Каментары пра розныя публікацыі і мерапрыемствы ад аналітыкаў арганізацыі |

Як паказана вышэй, параўнальна маленькая дыскусійна-аналітычная супольнасць можа мець такі ж уплыў на медыйны дыскурс, як цэлы ўніверсітэт, які мае ўнікальныя ўмовы, каб рухаць акадэмічныя і палітычныя дэбаты пра рэформы ў Беларусі. Больш за тое, уздзеянне ЕГУ на медыйную прастору болей датычыць ягоных выклікаў, чым ягоных вынікаў.

## Уздзеянне на нацыянальную ідэнтычнасць

З увагі на тое, што беларуская ідэнтычнасць з'яўляецца асноўнай каштоўнасцю беларускага дэмакратычнага руху і не можа натуральным чынам развівацца ў Беларусі, яна мусіць быць фундаментам дзейнасці ЕГУ.

ЕГУ можа стымуляваць даследаванні і дэбаты, якія дэманструюць простую сувязь паміж беларускасцю і еўрапейскасцю праз даследаванні ЕС. Значная патэнцыйная "дададзеная вартасць" ЕГУ знаходзіцца ў галіне спрыяння свабоднаму асяроддзю, дзе беларуская мова і культура могуць развівацца. ЕГУ ідэальна размешчаны, каб запоўніць гэты вакуум, а таксама ініцыяваць дыскусіі, якія аналізуюць розныя пласты беларускай сучаснай незалежнай ідэнтычнасці і культуры, што паўсталі ў Беларусі сёння.

Аднак нядаўні прыклад ЕГУ, калі "Беларусістыка" была паніжаная да ўзроўню адной з пяці спецыяльнасцяў у рамках праграмы "Культурная спадчына", паказвае зрух фокусу ўніверсітэцкай адміністрацыі да больш універсальных прадметаў.

---

[18] Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў – незалежны аналітычны цэнтр, які зарэгістраваны ў Літве і дзейнічае ў Беларусі. Больш інфармацыі на: <http://www.belinstitute.eu/en>.

[19] Дыскусійна-аналітычная супольнасць "Ліберальны клуб" – беларуская незалежная арганізацыя, заангажаваная ў даследчыя і адукацыйныя мерапрыемствы. Больш інфармацыі на: <http://liberalclub.biz/?page_id=153>.

У дадатак, хоць ЕГУ не падае публічна прапорцыі праграмаў, выкладанне якіх вядзецца на беларускай мове, сыход шэрагу знакавых асобаў, якія выкладалі на беларускай мове (Алесь Смалянчук, Захар Шыбека, Валянцін Голубеў) сведчыць, што іх колькасць змяншаецца.

Варта адзначыць, што павелічэнне колькасці прадметаў, выкладаных на беларускай мове, супярэчыць планам універсітэта прыцягваць больш студэнтаў з былых савецкіх рэспублік[20], бо мала людзей па-за Беларуссю размаўляюць па-беларуску. Хоць роля беларускай мовы не павінна быць найважнейшай тэмай, канкрэтныя крокі мусяць быць зробленыя, каб заахвоціць да выкарыстання мовы і большай павагі да беларускай ідэнтычнасці.




Напрыклад, ад 2012 года ўніверсітэт не мае нават беларускамоўнай версіі сайта[21]. Аўтараў гэтай паперы пераконвалі, што гэта часовая праблема. Аднак настолькі доўгая адсутнасць беларускай версіі сайта сведчыць, што падтрымка нацыянальнай ідэнтычнасці не знаходзіцца наверсе ўніверсітэцкага спісу прыярытэтаў.

## Уздзеянне на нарошчванне патэнцыялу

Універсітэт, працуючы ў больш свабодным асяроддзі за мяжой, можа патэнцыйна служыць фундаментам развіцця не толькі беларускіх студэнтаў, але таксама беларускіх навукоўцаў і адміністратараў ВНУ.

У сувязі з гэтым ЕГУ мусіць разгледзець магчымасць арганізацыі трэнінгаў па метадалогіі выкладання і даследаванняў для навукоўцаў, якія жывуць у Беларусі. ЕГУ таксама можа адыграць ролю ў падрыхтоўцы/перападрыхтоўцы з сучаснымі навучальнымі метадамі, асабліва папулярызуючы крытычнае мысленне, што будзе мець вырашальнае значэнне ў ажыццяўленні любых будучых рэформаў. Было б ідэальна, калі б гэтыя трэнінгі канцэнтраваліся на даследаваннях і статыстыцы Беларусі, што зробіць ЕГУ адрозным ад іншых рэгіянальных універсітэтаў.

Таксама мае значэнне донарская падтрымка, асабліва пасля рэпрэсіяў пасля выбараў 2006 і 2010 гадоў, якая была ажыццёўлена праз стыпендыяльныя праграмы. Сярэднетэрміновае ўздзеянне гэтых стыпендыяў застаецца адкрытым для абмеркавання і залежыць ад месца пражывання стыпендыятаў пасля навучання. Большасць донараў успрымаюць стыпендыі як інвестыцыі ў будучыню Беларусі, аднак існуе рызыка, што асобы становяцца адасобленымі ад Беларусі і ў выніку застаюцца ў сталай эміграцыі. Поўны і празрысты доступ да гэтай інфармацыі дапаможа вызначыць эфект гэтых праграмаў. Мусіць быць узважана рызыка міграцыі і зробленыя крокі па наладжванні сувязяў з арганізацыямі і кампаніямі, якія працуюць у Беларусі.

---

[20] EHU Governing Board, European Humanities Vision 2019, “A Strategic Plan for Academic Years 2012–2019”, 2011, с. 1–7.

[21] Каб паказаць кантэкст, варта адзначыць, што спансаванае ЗША Радыё “Свабода” працуе толькі на беларускай мове, тэлебачанне “Белсат”, якое падтрымліваецца Польшчай, вяшчае толькі па-беларуску. Гэта не значыць, што ўсё выкладанне ў ЕГУ мусіць быць на беларускай мове, аднак шэраг захадаў павінны быць зробленыя, каб узмацніць ролю мовы.

# Рэкамендацыі

На падставе фактаў і разважанняў, выкладзеных вышэй, гэтая папера прапануе наступныя рэкамендацыі.

## Вызначэнне прыярытэтных кірункаў дзейнасці ў галінах “дададзенай вартасці”

Рашэнне ЕГУ пра зачыненне праграмаў “Беларусістыка” і “Паліталогія” павінна быць перагледжанае. Яны мусяць стацца асноўнымі праграмамі ўніверсітэта.

Калі донары маюць цяжкасці з працягам сваёй падтрымкі ЕГУ на тым самым узроўні, ім варта аказваць мэтавую падтрымку ў галінах, дзе асяроддзе ЕГУ можа стварыць “дададзеную вартасць”, адрозную ад вынікаў, якія могуць быць дасягнутыя ў беларускіх універсітэтах або іншых рэгіянальных універсітэтах. Гэтыя галіны мусяць быць ядром, а не перыферыяй дзейнасці ЕГУ і павінны ўключаць:

> Адна з магчымых прычынаў, чаму ЕГУ мае праблемы з прыцягненнем студэнтаў, гэта нізкі ўзровень даследаванняў і ўздзення на публічную палітыку

- Стварэнне канкрэтных стымулаў для выкладчыкаў да правядзення высакаякасных даследаванняў у галінах “дададзенай вартасці”.
- Правядзенне высакаякасных акадэмічных даследаванняў беларускай гісторыі, асабліва палітычнай і эканамічнай.
- Данясенне тэарэтычнага і практычнага досведу да актывістаў грамадзянскай супольнасці, бо Беларусь мае ў гэтым відавочную патрэбу.
- Правядзенне даследаванняў грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, асабліва параўнальных даследаванняў з іншымі краінамі рэгіёна.
- Узмацненне працоўных сувязяў паміж студэнтамі і выкладчыкамі ЕГУ з аднаго боку і беларускімі грамадскімі арганізацыямі, аналітычнымі цэнтрамі і СМІ з другога боку для правядзення супольных праектаў.
- Стварэнне пляцоўкі публічных дыскусіяў са значнымі асобамі з Беларусі.
- Правядзенне шэрагу кансультацыяў/круглых сталоў з прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці/СМІ для распрацоўвання адмысловых праграмаў (практыкі, курсавыя праекты і г.д.) для студэнтаў і выпускнікоў ЕГУ.

## Празрыстыя і заснаваныя на заслугах працэдуры найму, арыентаваныя на беларускіх грамадзянаў

Рашэнні аб найме выкладчыкаў і даследчыкаў мусяць абапірацца на даследчыцкі досвед, відочны дзякуючы колькасці публікацый, асабліва ў галінах, вызначаных вышэй як прыярытэтныя. Паколькі ЕГУ мае мэту стаць адукацыйнай платформай для наступнага пакалення беларускай эліты, універсітэт мусіць прадэманстраваць сваю здольнасць рыхтаваць выкладчыкаў і кіраўнікоў у галіне

вышэйшай адукацыі, што пазней стане значным унёскам у паляпшэнне беларускай сістэмы вышэйшай адукацыі.

Такім чынам, ва ўсіх працэдурах найму беларускія грамадзяне мусяць мець значную перавагу, асабліва тыя, хто можа вучыць на дзвюх дзяржаўных мовах, беларускай і рускай, а не на адной. Гэта дапаможа забяспечыць устойлівасць працы ЕГУ праз спрыянне развіццю беларускай акадэмічнай эліты.




Хоць маральны чыннік падтрымліваць працаўнікоў, што засталіся ў ЕГУ ад мінскіх часоў, мусіць улічвацца, патрабаванні канкурэнцыі, што абапіраюцца на акадэмічныя дасягненні, павінны адыгрываць галоўную ролю. Адна з магчымых прычынаў, чаму ЕГУ мае праблемы з прыцягненнем студэнтаў[22], гэта нізкі ўзровень даследаванняў і ўздзення на публічную палітыку, як паказана вышэй[23].

Паводле некаторых рэспандэнтаў, большасць выкладчыкаў ЕГУ не маюць адпаведных працоўных кантрактаў з належнымі гарантыямі і замест гэтага працуюць як падрадныя працаўнікі. Каб павялічыць зацікаўленасць маладых беларусаў у такіх праграмах, як “Паліталогія”, “Гісторыя” ці “Беларусістыка”, універсітэт мусіць наймаць і утрымліваць дасведчаных навукоўцаў, якія працуюць у гэтых галінах, забяспечваючы ім працоўныя гарантыі, якія існуюць ва ўніверсітэтах Еўрапейскага Саюза[24].

## Адсочванне адпаведнага ўздзеяння

Рэгулярны маніторынг дзейнасці і сістэма зваротнай сувязі прынясуць універсітэту карысць – наглядны орган мусіць складацца з прадстаўнікоў донарскай супольнасці, беларускай грамадзянскай супольнасці і дыяспары, а таксама літоўскіх уладаў. Рашэнні пра запуск ці спыненне праграмаў, як і прыняцце будучай стратэгіі ЕГУ, мусяць адбывацца пасля кансультацыяў з гэтым органам.

Гэты механізм можа прыняць форму пашыранай версіі Агульнага сходу сузаснавальнікаў[25] або ўключэння вышэйпазначаных прадстаўнікоў у Кіраўнічую Раду ЕГУ ці ў Траставы фонд ЕГУ (юрыдычна прадстаўлены Паўночнай Радай Міністраў)[26].

---

[22] Канкурэнцыя пры паступленні на большасць праграмаў ЕГУ зніжаецца, і гэта сведчыць, што ўніверсітэт мае цяжкасці з прыцягненнем добрых студэнтаў, хоць ён і прапаноўвае стыпендыі.

[23] Галоўнай прычынай, чаму беларусы абіраюць навучанне ў ЕГУ, застаюцца “магчымасці ўдзельнічаць у праграмах абмену студэнтаў з іншымі еўрапейскімі ўніверсітэтамі” (60 % рэспандэнтаў), калі “магчымасць пазнаёміцца і кантактаваць з цікавымі, крэатыўнымі студэнтамі і выкладчыкамі” займае толькі 5-е месца з 39 %. 2012 Survey of Motivational Factors for Applying to Enter EHU (First Year Undergraduate Students).

[24] У 2009 годзе шэраг выкладчыкаў паліталогіі з ЕГУ звольніліся, сцвярджаючы, што ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце няма акадэмічных свабодаў. Асабліва яны былі незадаволеныя, што кіраўніцтва праграмы прызначалася, а не абіралася. Глядзі “Политологи ЕГУ объявили забастовку”: <http://www.belaruspartisan.org/bp-forte/?page=100&news=49114>, доступ: 9 чэрвеня 2013 г.

[25] EHU General Assembly of Part-Owners, <http://www.ehu.lt/en/about/leadership/generalassembly-of-part-owners>, доступ: 9 чэрвеня 2013 г.

[26] EHU Governing Board, <http://www.ehu.lt/en/about/leadership/governing-board>, доступ: 9 чэрвеня 2013 г.

ЕГУ мусіць быць заахвочаны штогадова публікаваць на сваім сайце наступную інфармацыю і трэнды, каб дэманстраваць дынаміку ў лічбах:

- Статыстыка актуальнай колькасці і назвы публікацыяў штатных працаўнікоў універсітэта агулам і асобна ў галінах “дададзенай вартасці”.
- Статыстыка рэгіёнаў, з якіх паходзяць студэнты ЕГУ, а таксама месцазнаходжання і пасадаў, на якіх працуюць выпускнікі праз два гады пасля заканчэння навучання.
- Статыстыка колькасці беларускіх грамадзянаў, якія займаюць акадэмічныя, вышэйшыя кіраўнічыя і адміністрацыйныя пасады ў ЕГУ.
- Працэнтная колькасць прадметаў, выкладаных на беларускай і іншых мовах.
- Падрабязны даклад пра дзейнасць цэнтраў, якія працуюць у галінах “дададзенай вартасці” (публікацыі, круглыя сталы, семінары, цытаванні ў прэсе).

## Да большай устойлівасці праз канцэнтрацыю на Беларусі

Размыванне фокусу ЕГУ зробіць яго менш прывабным для донарскай супольнасці і беларускіх студэнтаў-платнікаў, якія могуць аддаць перавагу іншым рэгіянальным універсітэтам без акцэнту на Беларусі.

Моцны фокус на Беларусь, з іншага боку, дасць відавочную перавагу для ЕГУ. Калі б ЕГУ быў у стане аб’яднаць салідную каманду з даследчыкаў, засяроджаных на Беларусі, і пашырыць сувязі з іншымі еўрапейскімі ўніверсітэтамі. Універсітэт заняў бы ўнікальную пазіцыю для прыцягнення фінансавання на даследаванні ад Еўрапейскага Саюза і іншых вялікіх донараў.

Узмацненне акцэнту на палітычных і грамадскіх даследаваннях ў Беларусі дапаможа ўніверсітэту знайсці падтрымку для сваёй дзейнасці сярод донараў і практыкаў, якія працуюць у беларускай грамадзянскай супольнасці. Шмат хто з іх таксама знаходзіцца ў Вільні, што дапаможа плённай супрацы.

Нарэшце, больш увагі да пытанняў беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, мовы і гісторыі таксама дапаможа ЕГУ атрымаць фінансавую падтрымку ад беларускай дыяспары ў Заходняй Еўропе і Паўночнай Амерыцы.

У сярэднетэрміновай перспектыве гэтыя кірункі могуць быць галінамі, што забяспечаць значную канкурэнтную перавагу ў экспертызе ў параўнанні з іншымі беларускімі ВНУ. Гэта будзе добры задзел да таго моманту, калі ў ЕГУ з’явіцца магчымасць вярнуцца ў Мінск.

# Пра аўтараў

Яраслаў Крывой – заснавальнік Цэнтра пераходных даследаванняў і галоўны рэдактар Belarus Digest. Выпускнік Гарвардскай Школы Права, працаваў у міжнародных юрыдычных фірмах і выкладаў права ў Беларусі, Вялікабрытаніі, Расіі ды Злучаных Штатах Амерыкі. Паходзіць з Мінску (Беларусь).

Алістар Рабальяці – аўтар кнігі “Голас меншасці: удзел нямецкіх і беларускіх уладаў у польскай палітычнай сістэме”. Раней працаваў у Прадстаўніцтве Еўрапейскай Камісіі ў Літве і Расійскай Федэрацыі.

# Цэнтр пераходных даследаванняў

Цэнтр пераходных даследаванняў – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца аналітыкай і адвакатаваннем палітыкі ў праблемах, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Апошнія дзесяцігоддзі былі часам хуткай трансфармацыі ў Беларусі ва ўсіх галінах: ад бізнес-клімату да рэлігіі, адукацыі і бяспекі. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Кіеве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і тэхнічныя здольнасці, неабходныя для аналітыкі ў заходняй стылістыцы.

Місія Цэнтра пераходных даследаванняў – спрыяць лепшаму разуменню пераходных працэсаў у Беларусі і вучыцца з досведу іншых краінаў. Ён праводзіць даследаванні, якія патрабуюць шматнацыянальных перспектываў. Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародныя навуковыя супольнасці.

